Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдавец: ПП «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Выдаецца са снежня 1994 года

51 (559) 23 снежня 2010 года.
Кошт свабодны.

## Са святам Нараджэння Хрыстова!

Веселого Рождества

# Â³íøóþ Âàñ ñà Ñâÿòàì Áîæàãà Íàðàäæýííÿ!



Дарагія сябры, браты і сёстры, каталікі і ўсе людзі добрай волі! Прарок Ісая, якога я працытаваў напачатку, расказвае пра надыход Збаўцы. Езус нарадзіўся на зямлі, прыняў цела чалавека, каб прагнаць ад нас смяротны цень. Езус – нашае Свята, якое рассейвае цемру зла і нянавісці.

> *“Í àðî ä, ÿê³ õàäç³¢ ó öåì ðû, óáà÷û ¢ ñâÿò ëî âÿë³êàå; í àä æûõàðàì ³ êðà³í û ñì ÿðî ò í àãà öåí þ çàççÿëà ñâÿò ëî.” ²ñ 9,2*

Асабліва ў гэтае радаснае Свята давайце будзем памятаць пра адзінства і ўзаемапавагу. Мы – адна Божая сям'я. Няхай нараджэнне Божага Сына падказжа нам правільны кірунак у нашым жыцці. Няхай больш будзе ў нашых адносінах любові і прабачэння, міласэрнасці і дапамогі. І нават простай звычайнай культуры. Лягчэй за ўсё на зло адказваць злом. Але такі прынцып стварае зачараванае кола, і памнажанае зло вяртаецца да нас.

Маленькі Езус сваёй прысутнасцю руйнуе шатанскі парадак. Пойдзем паклонімся Яму, як тры каралі з Усходу. Ён – наш Валадар! Таму, будучы Яго вернікамі, давайце будаваць Валадарства дабра і справядлівасці.

Дарагія сябры, жадаю Вам поўнага здароўя, як цялеснага, так і духоўнага. Няхай збудуцца ўсе Вашыя высакародныя мары, а Бэтлеемская зорка ў хвіліну цярпення дадае надзеі і ўказвае на месца, дзе чакае Вас Хрыстус.

Весёлых Калядаў!!!

***Ксёндз В. Місевіч***



## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5.ru

| | чацвер 23.12.10 | | | | пятн. 24.12.10 | | | | сб. 25.12.10 | | | | нядз. 26.12.10 | | | | пн.27.12. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | -7 | -9 | -8 | -8 | -7 | -6 | -6 | -4 | -1 | -2 | -2 | -2 | -1 | -1 | -1 | 0 | +1 | -2 | -5 |
| Ціск, мм | 749 | 746 | 746 | 746 | 746 | 744 | 742 | 742 | 740 | 738 | 739 | 739 | 739 | 737 | 738 | 740 | 741 | 740 | 742 |
| Вільготнасць, % | 95 | 92 | 91 | 92 | 91 | 94 | 96 | 98 | 100 | 99 | 97 | 97 | 99 | 100 | 98 | 99 | 100 | 98 | 91 |
| Вецер м/сек | В 1 | С-В 3 | С-В 4 | С-В 5 | С-В 3 | В 4 | В 5 | В 6 | В 4 | В 4 | С-В 5 | С-В 7 | В 8 | В 6 | В 4 | Ю-В 4 | Ю-В 3 | Ю-З 3 | Ю-З 5 |
| | | 08:34 | 15:43 | | | 08:34 | 15:43 | | | 08:35 | 15:44 | | | 08:35 | 15:45 | | 08:35 | 15:46 | |
| | | 18:31 | 09:51 | | | 20:00 | 10:14 | | | 21:28 | 10:33 | | | 22:55 | 10:48 | | - | 11:03 | |

Ì¸ðñê³ ðà¸í

# Ëåäçü íå ïàäñòðýë³¢ êàëåãó

■ **Станіслаў Раманчук.**

**Па новых Правілах вядзення рыбалоўнай і паляўнічай гаспадаркі ў Беларусі прадоўжылі да 30 снежня тэрміны палявання на капытных жывёл.**

Паколькі пагалоўе дзікіх жывёл паўсюдна вырасла, дзікіх кабаноў стала нават больш, чым зайцаў, павялічыліся нормы іх адстрэлу. Аднак адначасова прыбавілася няшчасных выпадкаў у лесе, адзін з якіх быў нядаўна зафіксаваны ў Мёрскім раёне. Там на тэрыторыі паляўнічай гаспадаркі райарганізацыі таварыства паляўнічых і рыбаловаў праводзілі пад кіраўніцтвам егера загоннае паляванне. Сабака адшукала след казулі і пагнала яе. Неўзабаве пачуўся стрэл, які зрабіў паляўнічы з суседняга Браслава. Ён вельмі хацеў патрапіць па казулі, якая бегла недалёка ад паляўнічых. Аднак раздаўся раптам чалавечы крык. У выніку гэтага інцыдэнту адзін з зарадаў карцечы патрапіў па нагах паляўнічага, які займаў пазіцыю на суседнім нумары. Падчас палявання атрымаў раненне галоўны механік мясцовага прадпрыемства меліярацыйных сістэм. На шчасце, гэты стрэл не меў трагічных наступстваў. Аднак перыядычна падчас палявання з-за празмернага азарту і парушэння правілаў бяспекі замест трафеяў даходзіць і да трагічнай гібелі людзей.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Ó ïàëàöà ç'ÿâ³¢ñÿ ãàñïàäàð

■ **Кастусь Александровіч**

**Амаль 20 гадоў не мела гаспадара сядзіба пана Бішэўскага, які ў канцы XIX стагоддзя ў мястэчку Лынтупы Пастаўскага раёна пасярод штучнага вострава пабудаваў цудоўны палаца-паркавы ансамбль.**

Пасля таго, як з двухпавярховага будынка ў новае перaехала сярэдняя школа, праўда, яго дах змаглі перакрыць, што і выратавала ад поўнага разбурэння. І вось цяпер на аўкцыёне ў абласным цэнтры старажытная сядзіба з палацам, капліцай, вежай, мастом, трыма сажалкамі і паркам з рэдкімі пародамі дрэў набыла гаспадароў з буйнога маскоўскага холдынгу, які адрэстаўрыраваў у розных кутках Расіі шэраг такіх палацаў. Маскоўская фірма-інвестар праявіла вялікую цікавасць да аб'екта, разлічылася з даўгамі за праект ягонай рэстаўрацыі і зарэгістравала ў Беларусі сваё прадстаўніцтва "Глорыя 777". Масквічы плануюць выдаткаваць на палац каля 6 млрд. рублёў і перартварыць яго ў агратурыстычны цэнтр з гасцініцай, аднавіць старажытны парк. Побач з алеямі мяркуецца ўзвесці і тэнісныя корты, арганізаваць спа-салон, аздараўленчы цэнтр. За некалькі бліжэйшых гадоў з'явяцца на мяжы з Літвой для мясцовых жыхароў дадатковыя працоўныя месцы, і галоўнае, што гэты палац застанецца на Пастаўшчыне гісторыка-культурнай каштоўнасцю.

Äîêøûöê³ ðà¸í

# Êàë³ âû ï³¢ – íå êóðû

■ **Чэслаў Якубовіч**

**З надыходам халадоў чамусьці прыбавілася працы ў пажарных з-за розных парушэнняў правілаў супрацьпажарнай бяспекі і па-ранейшаму з-за неасцярожнасці пры курэнні ў нецвярозым стане.**

А ў Докшыцкім раёне днямі прыйшлося нават прыбегнуць да эвакуацыі людзей пры ліквідацыі пажару ў шматпавярховым жылым доме ў пасёлку Круляўшчызна. Там на апошнім паверсе цаглянага дома ў адной з кватэр пражываў 71-гадовы пенсіянер і нападпітку пакінуў на падлозе запаленую свечку. Стары моцна спаў пад градусамі і не адчуваў, што ўжо пачалі гарэць яго пасцельныя прыналежнасці. Едкі чорны дым вырваўся з кватэры, запоўніў лесвічную пляцоўку і распаўсюдзіўся па пад'езду. Але, верагодна, Гасподзь пашкадаваў гэтага небарака. Пажарныя паспелі выратаваць гаспадара кватэры, якога з прыкметамі атручэння чадным газам даставілі і змясцілі на лячэнне ў райбальніцу. Калі ўзгаранне было ліквідавана, у свае кватэры на ніжэйшых паверхах вярнуліся некалькі жыхароў. Аднак у іншых аналагічных выпадках на пажарах наступствы былі сумныя. З-за цыгарэт нападпітку ў Браслаўскім і Шумілінскім раёнах загінулі маладыя хлопцы, якім не споўнілася і 30-ці гадоў. Такая ж неасцярожнасць каштавала жыцця таксама для двух жыхароў Верхнядзвінскага і Віцебскага раёнаў.

## Äçåíü çà äíåì

**Напрыканцы года стабільнасць курсу айчыннага рубля даецца Нацбанку Беларусі не без напружання. Міжнародныя рэзервныя актывы краіны ў лістападзе знізіліся яшчэ на 122,9 млн. $. Беларусь таксама збіраецца правесці ў бліжэйшыя 2-3 гады дэнамінацыю сваёй валюты. По ўсёй краіне пачалі працаваць кірмашы па продажы жывых ёлак і ёлак у кадках, іх лясгасы прыпаслі больш за 260 тысяч, у асноўным па леташніх цэнах. Найбольш актыўна гэтыя навагодняя дрэўцы раскупляюць цяпер каталікі і пратэстанты, бо іх хутка чакае светлае свята Божага нараджэння.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Расія.** Сюды да 2012 года Беларусь пры дапамозе амерыканцаў вывезе ў кантэйнерах і касетах 2 тоны высокаўзбагачанага ўрану, як і адпрацаванага, так і свежага паліва.

**Бельгія.** Па дадзеных статагенства ЕС, узровень беспрацоўя ў 27 краінах Еўрасаюза напрыканцы восені дасягнуў 9,6 %, не лепшае становішча на рынку працы і ў ЗША.

**Іспанія.** З мэтай выхаду з крызісу ўрад вырашыў прыватызаваць 47 аэрапортаў краіны, скараціць дапамогі па беспрацоўю, замарозіць пенсіі, знізіць падаткі для дробных фірм.

**Украіна.** Пад моцным ціскам прадпрымальнікаў прэзідэнт В. Януковіч падпісаў новую, спрыяльную для іх рэдакцыю Падатковага кодэкса з папраўкамі, прынятую парламентам.

**ЗША.** Упершыню ў свеце прыватная фірма Space X паспяхова запусціла з мыса Канаверал пробны касмічны карабель і вярнула яго на зямлю шляхам прываднення ў Ціхім акіяне.

**Літва.** На выпадак ваеннай агрэсіі з Усходу краіну і яе суседак Латвію, Эстонію па плану НАТА "Eagle Guardian" абароняць 9 ваенных дывізій з ЗША, Англіі, ФРГ і Польшчы.

**Кітай.** У адказ Захаду тут заснавалі і ўручылі першую альтэрнатыўную Нобелеўскую прэмію міру імя Канфуцыя старшыні тайваньскай партыі Гоміньдан Ліэнь Чаню.

**Куба.** Кіраўніцтва краіны плануе маштабныя эканамічныя рэформы, пашырэнне долі прыватнага сектара, каб пераадолець існуючыя цяжкасці і павысіць узровень жыцця.

**Японія.** Кампанія Nissan Motor пачала выпускаць першыя ў свеце электрамабілі Leaf, яны здольныя праехаць да 200 км з хуткасцю 145 км/гадзіну на працягу 8 гадзін без падзарадкі

**Малдова.** Ужо каля паловы дарослага насельніцтва краіны выехала на заробкі за мяжу з-за нізкіх зарплат (242 $ у месяц), у іх грамадзянства Румыніі, няма праблем з візамі ў ЕС.

**Ізраіль.** На Святой Зямлі на сцяне храма ў Іерусаліме неўзабаве з'явіцца па ініцыятыве арцыбіскупа Т. Кандрусевіча керамічная табліца з малітвай "Ойча наш" па-беларуску.

**Швецыя.** Краіну шакіравала здарэнне на паляванні, дзе жанчына трапіла на застрэліла ласяне, а затым куля навылет праз цела жывёлы забіла лыжніка, які апынуўся непадалёк у лесе.

**Егіпет.** Бурай з пяску і моцнымі дажджамі накрыла краіну, у выніку загінула 13 чалавек, абрушылася ткацкая фабрыка ў Александрыі, былі закрыты 13 портаў.

**Украіна.** Залу пасяджэнняў Цярнопальскага гарсавета дэпутатаў упершыню ў краіне ўпрыгожыла ікона з выявай Ісуса Хрыста, каб Бог даваў розуму пры прыняцці рашэнняў.

**Расія.** Правядзенне чэмпіянату свету па футболе абыйдзецца краіне ў амаль 10 млрд. $, гэта будзе самы дарагі ў сусветным спорце праект з удзелам прыватных капіталаў.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** Старшыня Нацбанка П. Пракаповіч прызнаў, што ў Беларусі ў 2014 годзе могуць быць праблемы са знешнім доўгам, як у Грэцыі і Ірландыі.

**Баранавічы.** Спроба Дзяржкаммаёмасці РБ прадаць дзяржпакет акцый мясцовага ААТ "Бархім" у рамках пілотнай прыватызацыі двойчы завяршылася няўдачай, не было заявак.

**Мінск.** Пасол Францыі ў Беларусі Мішэль Рэнеры абурыўся, што кошт французскіх вінаў тут у 2 разы вышэйшы, чым на яго радзіме, і абмежаваны асартымент рэстаранаў Мінска.

**Мазыр.** Пасля невялікай дапрацоўкі трубапровад Адэса-Броды-Мазыр зможа пракачваць на мясцовы НПЗ да 16 млн. тон нафты з басейна Чорнага мора на працягу 3-х гадоў.

**Пінск.** На аднаўленне пасля аварыі "Пінскдрэва" кампанія "Белдзяржстрах" пералічыла апратыўна 3 млрд. рублёў, бо прадпрыемства было застрахавана.

**Гомель.** Абласны суд прыгаварыў экс-участкова Рагачоўскага РАУС за забойства на падпітку на Купалле дзяўчыны да 18 гадоў турмы, з міліцыі звольнілі і трох яго калег.

**Маладзечна.** Неверагодным чынам загінула ў выніку ДТЗ 56-гадовая жыхарка вёскі Лебедзева не на дарозе, а ў гандлёвым павільёне, куды ўляцеў на хуткасці грузавік МАЗ.

**Ляхавічы.** Па факце злоснага браканьерства міліцыя распачала крымінальную справу супраць 4-х жыхароў раёна і Баранавіч: яны забілі рысь, занесеную ў Чырвоную кнігу.

**Мінск.** На працягу 6 дзён на сцэне тэатра оперы і балета ўпершыню прайшоў Мінскі міжнародны калядны оперны форум з удзелам 150 лепшых салістаў з 8-мі краін свету.

**Брэст.** Адразу па 4-х крымінальных артыкулах пойдзе пад суд 28-гадовы таксіст, ён п'яным напаў на прадаўца, затым, уцякаючы, пратараніў на аўто з пасажырамі жылы дом.

**Ракаў.** Паблізу гарпасёлка будаўнікі ўзвялі дах буйнейшага ў Беларусі сучаснага лагістычнага цэнтра, здача 1-й чаргі намечана на чэрвень 2011 года, ужо ёсць 80 % заказаў

**Рагачоў.** Страшны спосаб звесці рахункі з жыццём выбраў 30-гадовы беспрацоўны: пасля распіцця гарэлкі ён выскачыў з акна сваёй кватэры на 8-м паверсе і загінуў.

**Бабруйск.** За сур'ёзныя хібы ў арганізацыі працы з заявамі грамадзян Генеральны пракурор Беларусі вызваліў ад займаемай пасады пракурора Ленінскага раёна горада.

**Баранавічы.** У другі раз на працягу месяца міліцыя канфіскавала ў мясцовых жыхароў рэвальвер сістэмы Наган узору 1895 года, экспертыза прызнала зброю годнай для стральбы.

**Пухавічы.** З-за перакалу печы моцна падгарэў гасцявы дом - музей комплекса старажытных народных рамёстваў і тэхналогій "Дудуткі". На шчасце, турыстаў там не было.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Віцебск.** Італьянская фірма Baldinini абвінаваціла свайго партнёра, абутковую кампанію "Марка" ў плагіяце, вырабе якасных падробак абутку, і спыніла супрацоўніцтва з ёй.

**Верхнядзвінск.** Без лішніх клопатаў і віз неўзабаве жыхары райцэнтра і суседніх Мёраў, Браслава змогуць наведваць прыгранічныя раёны Латвіі, у прыватнасці, Даўгаўпілс.

**Віцебск.** Тэлезавод "Віцязь" увайшоў у лік чатырох самых праблемных буйных ААТ Беларусі, яго страты ад рэалізацыі прадукцыі ў 1-м паўгоддзі склалі 10,2 млрд. рублёў.

**Бешанковічы.** У райцэнтры практычна знікла чарга на паляпшэнне жыллёвых умоў, у Віцебску ў чарзе на жыллё амаль 30 тысяч чалавек, па вобласці мараць аб ім 70 тысяч.

**Гарадок.** У вёсцы Смалоўка адкрыўся 18-ты па ліку ў вобласці пансіянат для пажылых людзей і інвалідаў на 30 месц у адрамантаваным памяшканні былой участковай бальніцы.

**Орша.** У асартыменце прадукцыі льнокамбіната з 3500 найменняў упершыню з'явіліся махровыя ручнікі і халаты, пледы, а таксама каляровыя льняныя тканіны з малюнкамі.

**Паставы.** За 2 гады тут пабудуюць самы сучасны ў РБ сыраробны завод на 20 тон сыроў у суткі і цэх глыбокай перапрацоўкі сываркі, будзе 130 новых рабочых месцаў.

**Полацк.** У новым жылым мікраёне па рашэнні гарсавета дэпутатаў будзе вуліца Грунвальдская, старажытны горад першы ў Беларусі адмовіўся ад савецкіх назваў.

**Браслаў.** Неспадзяванна кіраўніцтва вобласці адабрала ў райцэнтра права правядзення ў 2011 годзе абласных "Дажынак", яго перадалі чамусьці гарпасёлку Лёзна.

**Мёры.** Мясцовы льнозавод не ўвайшоў(як і Мосарскі завод на Глыбоччыне і яшчэ 8 па вобласці) у холдынг з Аршанскім льнозаводам, іх далучаць да льносеючых калгасаў.

**Віцебск.** Пад раніцу ў 6 гадзін міліцыя затрымала двух студэнтаў і 18-гадовага беспрацоўнага, якія ламалі дзвярныя замкі і абкрадалі салоны легкавых машын.

**Глыбокае.** Пасля 7 месяцаў капітальнага рамонту ў райцэнтры адкрылі стаматалагічную паліклініку, адну з лепшых у вобласці , у ёй працуюць 8 зубных урачоў і 7 стаматолагаў.

**Лепель.** Адразу 12 кг высушанай партыі марыхуаны забрала міліцыя ў мясцовага хлопца, гэту смертаносную атруту ён вырошчваў у глухім лясным масіве.

**Віцебск.** Самы вялікі ў РБ Свята-Успенскі праваслаўны кафедральны сабор упрыгожыла адлітыя і дастаўленыя з Масквы 10 мілагучных званоў, адзін з іх вагою больш за 5 тон.

**Полацк.** Падчас выпіўкі і пажару задыхнуліся вечарам ў дыме адразу чацвёра гараджан, з іх 2 жанчыны ва ўзросце 48-52 гадоў, за суткі агонь забраў жыцці 8 чалавек у вобласці.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**3,9** *млрд. $* - у такую прыкладна суму ацаніла міністр эканомразвіцця РФ Эльвіра Набіуліна станоўчы эфект для эканомікі Беларусі ад пагаднення па адмене пошлін на нафту з 2011 года. У ходзе нядаўняга саміта Мытнага саюза тройкі па стварэнні Адзінай эканамічнай прасторы падзеі ў Маскве развіваліся імкліва і ў нечым сенсацыйна. Напярэдадні прэм'еры абедзвюх краін аб гэтым не дамовіліся, але неўзабаве афіцыйны Мінск дабіўся свайго.

Такім чынам, з 1 студзеня новага года наша краіна будзе атрымоўваць нафту і нафтапрадукты, а таксама прыродны газ у рамках АЭП без пошлін, квот і абмежаванняў. Яшчэ перад гэтым расійскія ўпраўленцы ацэньвалі выгаду для свайго бюджэта ад ранейшых умоў пастаўкі нафты ў памеры 14 млрд. долараў. Зараз нечакана згадзіліся на такія істотныястраты. Але яны могуць быць меншымі, бо Беларусь збіраецца купіць і даставіць з Венесуэлы ў будучым годзе 10 млн. тон "чорнага золата". Толькі на Мазырскі НПЗ сёлета з-за акіяна паступіла якаснай нафты "Санта-Барбара" амаль 1 млн. тон.

Беларуская нафтавая кампанія збіраецца як мінімум на працягу бліжэйшых 3-х гадоў задзейнічаць украінскую трубу Адэса-Броды. Наш дзяржбюджэт у выніку дасягнутых дамоўленасцей у расійскай сталіцы і падпісаных 17 дакументаў па фарміраванні АЭП можа атрымаць дадаткова да 1,2 млрд. долараў, нават калі нам прыйдзецца бліжэйшыя 3 гады ўсе вывазныя пошліны на выраблены ў РБ нафтапрадукты поўнасцю пералічваць у расійскі бюджэт.

Праўда, расіяне пагадзіліся, што 1,7 млн. тон здабытай самімі беларусамі нафты вывазнымі мытнымі пошлінамі абкладацца не будуць. Да 2014 года такі механізм раздзелу даходаў мяняцца не будзе. Попыт на нафту даволі высокі і пры спрыяльнай кан'юнктуры гэтага рынку айчынны бюджэт зможа дадаткова зарабіць яшчэ паўмільярда долараў штогод. Асноўныя напрамкі гандлю беларускімі нафтапрадуктамі даволі шырокія: ад Украіны з Малдовай, краін Прыбалтыкі, Польшчы да шэрагу дзяржаў ЕС, такіх як Галандыя, Англія, Швецыя, Данія і іншыя.

Да таго ж нядрэнна, што на прасторах СНД на нафтаперапрацоўчых заводах у Наваполацку і Мазыры пасля праведзенага на іх тэхпераўзбраення Беларусь лідзіруе па якасці прадукцыі. Існуючыя расійскія пошліны на на светлыя і цёмныя нафтапрадукты даволі камфортныя, у бліжэйшыя 2 гады складуць 53-64 % ад кошту нафты. Тым не меньш існуе апасенне, што маскоўскія дакументы рыхтаваліся ў спешцы, паколькі існуе шэраг пытанняў наконт механізму рэалізацыі дамоўленасцей, парадку разлікаў паміж краінамі, бо ўсплывае яшчэ і венесуэльская нафта.

Дагэтуль невядома дакладна, па якой цане закупляюць беларусы нафту ў сваіх далёкіх венесуэльскіх сяброў. Адзінае, што было сказана на прайшоўшым 4-м Усебеларускім сходзе: " 10 млн. тон самай якаснай нафты адтуль – гэта 13 млн. тон расійскай нафты "Уралс". Існуючая праграма развіцця айчынных НПЗ дазваляе беларусам пачаць выпуск у прамысловых аб'ёмах маторнага паліва для еўрапейцаў сучаснага стандарту Еўра-5. У гэтай сферы назіраецца патрэбны сёння інтэнсіўны варыянт развіцця вытворчасці па лепшых еўрапейскіх узорах.

І ў іншых галінах эканомікі патрэбна краіне заявіць пра сябе на сусветных рынках. Ужо адкрыта вуснамі главы Нацбанка Беларусі Пятра Пракаповіча заяўлена, што мы жывём не па сродках, штогод залазім мінімум на 20 % у знешнія даўгі, каля 10 млрд. долараў. Па сцвярджэнні гэтага спецыяліста, так можа працягвацца максімум 3 гады. А калі не выйдзе краіна на станоўчае сальда знешняга гандлю, то ў нас могуць узнікнуць праблемы, як у грэкаў і ірландцаў цяпер. Ім дапамаглі, а беларусам можна спадзявацца толькі на свае сілы.

Пры ўсіх плюсах адмен пошлін на нафту, відавочна, што РФ і ў далейшым стане для нас павышаць кошт энерганосьбітаў. Нічога беларусам не застаецца, каб павышаць у краіне ўзровень энергазберажэння і энергаэфектыўнасць прамысловай вытворчасці і, канешне ж, пашыраць прыцягненне замежных інвестыцый і пачынаць працэс прыватызацыі.

# «Ахова птушак Бацькаўшчыны» прыме меры па аднаўленні ў Беларусі колькасці вяртлявай чарацянкі

Грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ) прыме меры па аднаўленні ў Беларусі колькасці вяртлявай чарацянкі. Аб гэтым БелаПАН паведаміў супрацоўнік АПБ, міжнародны спецыяліст па захаванні вяртлявай чарацянкі Уладзімір Малашэвіч.

Паводле яго слоў, вяртлявая чарацянка– адзін з самых рэдкіх відаў птушак у Еўропе, каля 60% папуляцыі якога гняздуецца ў Беларусі. Аднак з-за гаспадарчай дзейнасці колькасць вяртлявай чарацянкі ў краіне ў апошнія гады зніжаецца. У 2010 годзе ў Беларусі быў праведзены поўны ўлік колькасці віду. Па яго выніках быў зафіксаваны абсалютны мінімум колькасці вяртлявай чарацянкі ў краіне за ўсю гісторыю назіранняў (з 1996 года) прыкладна ад 3 тыс.100 да 5 тыс. 600 самцоў, якія спяваюць.

Як лічыць спецыяліст, асноўная прычына зніжэння колькасці рэдкіх птушак – зарастанне нізінных балот. Асноўная мера барацьбы з гэтай з'явай– арганізацыя касьбы травы.

Паводле слоў Малашэвіча, у найбліжэйшы час АПБ мае намер падаць праектную заяўку ў праграму трансгранічнага супрацоўніцтва Польшча-Беларусь-Украіна на 2007-2013 гады, якая фінансуецца Еўракамісіяй. У рамках праекта для заказніка Званец, які з'яўляецца найбуйнейшым месцам пражывання вяртлявай чарацянкі, мяркуецца закупіць абсталяванне па касьбе і перапрацоўцы біямасы для вытворчасці паліўных брыкетаў. Апошнія могуць быць рэалізаваны на знешнім рынку, што зробіць дзейнасць па касьбе эканамічна рэнтабельнай.

Захаванню папуляцыі вяртлявай чарацянкі таксама будзе садзейнічаць стварэнне ў 2011 годзе пілотнага прадпрыемства па перапрацоўцы біямасы ў Спораўскім заказніку, другім па колькасці месцы пражывання рэдкага віду. Гэта прадугледжана ў рамках міжнароднага праекта «Клімат і біяразнастайнасць», які рэалізуецца ў 2009-2011 гадах за кошт сродкаў Федэральнага міністэрства навакольнага асяроддзя, аховы прыроды і ядзернай бяспекі Германіі.

Акрамя таго, АПБ працягне праводзіць маніторынг вяртлявай чарацянкі ў Беларусі.

*Анастасія Янушэўская, БелаПАН.*



■ **А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# Узаемадзеянне грамадзян і інспекцыі дапамагае весці барацьбу з браканьерамі

За 11 месяцаў 2010 года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі выяўлена 318 правапарушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, 11 матэрыялаў накіравана ў органы ўнутраных спраў для ўзбуджэння крымінальных спраў за грубыя парушэнні, па іх узбуджаны крымінальныя справы і вінаватыя панеслі суровае пакаранне, да крымінальнай адказнасці прыцягнута 23 чалавекі.

Усяго спынена 186 парушэнняў правіл рыбалоўства, 14 фактаў крадзяжу сажалкавай рыбы, 23 парушэнні правіл вядзення паляўнічай гаспадаркі, 63 парушэнні правіл лесакарыстання, 32 іншыя парушэнні, 7 фактаў непадпарадкавання законным патрабаванням супрацоўнікаў інспекцыі. У парушальнікаў канфіскавана 155 браканьерскіх сетак агульнай даўжынёю 6 км.880 метраў, 33 адзінкі іншых прылад рыбалоўства, 500 кг незаконна здабытага мяса дзікіх жывёл, 273 кг незаконна здабытай рыбы, 8 адзінак агнястрэльнай зброі, з іх 5 адзінак незарэгістраванай зброі, 12 м.куб. незаконна нарыхтаванай драўніны. Сёлета назіраецца тэндэнцыя да скарачэння правапарушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства.

На тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі ад грамадзян паступіла 51 паведамленне пра парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства, па якіх затрымана 80 правапарушальнікаў.

Узаемадзеянне грамадзян і інспекцыі дапамагае весці барацьбу з браканьерамі, наводзіць парадак і захоўваць нашу прыроду.

Асобныя грамадзяне, якія на словах за выкананне закона, насамрэч вельмі часта яго парушаюць. У наш час у раённым судзе знаходзяцца адміністрацыйныя і крымінальныясправы за парушэнне прыродаахоўнага заканадаўства, дзе парушальнікі, на словах кажучы адно, рабілі зусім іншае, займаліся браканьерствам, выказвалі непадпарадкаванне супрацоўнікам інспекцыі падчас затрымання. Па выніках года і разгляду матэрыялаў у судзе ўсе гэтыя гісторыі з вынікамі расследавання будуць асветлены ў раённых сродках масавай інфармацыі

Глыбоцкая міжрайінспекцыя просіць усіх грамадзян, якія жадаюць даведацца пра працу інспекцыі, звяртацца па тэлефонах : 2-86-70 ці 2-80-30 асабіста да начальніка інспекцыі, а таксама ў любы працоўны, зручны для Вас дзень з 8-00 да 9-00.

Яшчэ раз хочацца падзякаваць грамадзянам, якія аказваюць дапамогу ў барацьбе з браканьерамі, павіншаваць усіх з надыходзячымі навагоднімі святамі , пажадаць паляўнічым ні пуху ні пяра, а рыбакам ні хваста ні лускі. Толькі разам мы зможам навесці парадак на нашых азёрах, рэках і ў лясах.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць па тэлефонах: 8-02156-2-86-70 «гарачая лінія» кругласутачна, Мабільныя: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.



# Лётчыкі асобнага авіяцыйнага атрада органаў пагранслужбы пацвердзілі свае класныя кваліфікацыі

Палёты на пацвярджэнне класнай кваліфікацыі лётным складам асобнага авіяцыйнага атрада органаў пагранслужбы Беларусі праведзены 15-16 снежня ў Паставах (Віцебская вобласць).

Як паведаміў БелаПАН старшы штурман лётна-метадычнага аддзела авіяатрада Ігар Скварцоў, у палётах, якія праводзіліся ў дзённы і начны час на верталётах Мі-8 і «Еўракопцер»,удзельнічалі 12 лётчыкаў 1-га, 2-га і 3-га класаў, практычна ўвесь лётны склад. Усе пацвердзілі сваю класную кваліфікацыю. Пілоты, задзейнічаныя ў гэтыя дні на выкананні службовых заданняў, зрабілі гэта раней.

Як адзначыў Ігар Скварцоў, выкананню палётаў на пацвярджэнне класнасці папярэднічала здача тэарэтычных экзаменаў прыкладна па 10 прадметах.

Праведзенае ў Паставах мерапрыемства стала выніковым у падрыхтоўцы пілотаў пагранічнага ведамства ў 2010 годзе.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*




**Ад усяго сэрца віншуем з 80-годдзем!**

Таланты ваши всем известны,
Заслуги – трудно сосчитать.
За труд Ваш и за щедрость сердца
Хотим спасибо Вам сказать.

Здароўя Вам і дабрабыту.



*Сям'я Жолуд.*

# «Белтрансгаз» і «Газпрам» у 2011 годзе павінны падрыхтаваць кантракт аб фарміраванні цаны на газ у 2012—2014 гадах

**«Белтрансгаз» і «Газпрам» у 2011 годзе павінны падрыхтаваць кантракт аб фарміраванні цаны на газ для Беларусі ў 2012-2014 гадах, паведаміў на пасяджэнні прэзідыума Савета міністраў 17 снежня віцэ-прэм'ер Андрэй Кабякоў.**

«У адпаведнасці з дамоўленасцямі кіраўнікоў урадаў Беларусі, Расіі і Казахстана ў 2011 годзе паміж «Газпрамам» і «Белтрансгазам» павінен быць падрыхтаваны кантракт, які прадугледжвае фарміраванне цаны на газ для Беларусі з улікам паэтапнага выхаду РФ на роўнадаходныя цэны на газ да 1 студзеня 2015 года», сказаў Кабякоў.

Ён нагадаў, што 9 снежня паміж краінамі Мытнага саюза было падпісана пагадненне аб пераходзе на роўнадаходныя цэны на газ да 2015 года. Кабякоў адзначыў, што гэта пагадненне не ўлічвае цэнаўтварэнне на газ на 2011 год. Цяпер Беларусь і Расія вядуць перамовы на гэту тэму. У пагадненні прадугледжаны пераходны перыяд на рыначныя роўнадаходныя цэны на газ усіх дзяржаў членаў Адзінай эканамічнай прасторы не пазней за 1 студзеня 2015 года.

*Андрэй Кажамякін, БелаПАН.*

## Перадкалядная пара

М.М. Даргель

Перадкалядная пара,
Цярушыць неба іней- манку,
Мяняе ўзоры модніца-зара,
Каб сонцу ўпадабацца ўранку.

Крапчэе к вечару мароз,
Зіма ўваходзіць у сілу,
Убранне новае ў бяроз,
Яна іх вэлюмам накрыла,

Сваё ў гэтым часе харавство,
Блішчыць на дрэвах зорны іней.
Усе чакаюць Збаўцы нашага раство,
У задуме вёска ў прадкаляднай цішыні.

Дымы над дахамі бы волаты ўстаюць,
Сінічка туліцца ў падстрэшшы,
Чакае, людзі можа што дадуць:
Галодных пакармінь - душу пацешыць.

Ля рэчкі на крутой гары,
Дзе дуб-дзядуля дрэмле,
Шыбуюць санкі дзетвары,
Пакуль на вёску не ўзыйдзе цемень.

Эх, дзеткі, паляцеў бы з вамі я,
Гады вось толькі не пускаюць.
Гуляйце ж, покуль тата й мама ў вас, сям'я,
Галоўкі аб школе, гульнях дбаюць.

## Нараджэнне Хрыстова

Людміла Ардынская
в. Радзюкі

Запаліў Гасподзь першую зорку,
На зямлю сыходзіць святло.
Дзверы хаты адкрый надвячоркам –
Пасылаюць нябёсы цяпло.
Мой анёл стаіць за дзвярыма,
Я рукой яго крылы крану,
І мяне ён лагодна абдыме –
Сёння неба цалуе зямлю.
Запрашэнне маё ён прымае,
Прыляцеў ты, анёле, у мой дом.
Веліч радасці тых падзяляе,
Па жыцці хто ідзе за Хрыстом.
Ва ўрачыстым чаканні прырода.
Непаўторнае харавство!
Найвялікшая ў свеце нагода –
Нарадзіўся Хрыстос! Ражаство!

## Бярозаўка

Людміла Ардынская
в. Радзюкі

Цячэ рачулка праз сасновы бор,
У сваім пачатку нерашучая, нясмелая.
З ляснога возера імкнецца на прастор,
І хвалі мыюць дрэвы абымшэлыя.
У Беразвеччы кляштар пазіраў
Знямелым сведкам даўніны ссівелай.
Калі і хто яе Бярозаўкай назваў?
Мо гай тут быў бярозак белых?
Бяжыць рака ўсё далей ад вытоку,
Наперад да Дзісны шырокай.
Бяжыць, імчыць гарэзліва, гулліва,
То раптам управа павярне, то ўлева.
То вернецца назад, бы азірнецца,
Падковаю ля вольхаў абагнецца.
Шмат на яе шляху такіх падкоў,
Дабегла спакваля да Радзюкоў.
Пакінуўшы Савуткі, Беляі,
Дзе ў вербалозах не сціхаюць салаўі,
Сустрэлася з Гнілушкай у Малонцы,
Што працякае ля Зялёнай Лонкі.
Стаю на беразе каля старога млына,
Гняздзяцца птушкі ў кустах ажыны.
Чаромхі пах, павольны рух вады…
Спрадвечнага жыцця бягуць гады.



# Яе намаганні не прападуць дарма

■ **Людміла Ардынская,**
*в. Радзюкі, Шаркоўшчынскі р-н*



Ада Эльеўна Райчонак

Жывуць на зямлі людзі, якія пакідаюць пасля сябе след. Яны не абмяжоўваюцца ўласным падворкам, не застаюцца задаволенымі дабрабытам, хоць хто ж супраць гэтага. Іх душа імкнецца да чагосьці ўзвышанага, яны жывуць "не хлебам адзіным" і пакідаюць людзям карціны, цудоўныя музычныя творы, кнігі. Я маю на ўвазе не толькі мецэнатаў, якія пакінулі свету карцінныя галерэі, храмы, але і людзей, нашых сучаснікаў, якія вылучаюцца сярод іншых якойсьці адметнасцю. Адны вышукваюць і адкрываюць новую старонку ў гісторыі сваёй вёскі, горада, другія ствараюць музеі, галерэі. Не ўсе разумеюць і падтрымліваюць такіх людзей. Часцей за ўсё гэтыя няўрымслівыя і неабыякавыя людзі – адзінокія постаці ў свой час. Але, дзякуй Богу, наступныя пакаленні ацэньваюць іх грамадскую і творчую дзейнасць, што сталася і з нашым земляком Язэпам Драздовічам, якога сучаснікі таксама лічылі дзіваком.

Мне ніколі не надакучыць глядзець дакументальную стужку рэжысёра У.Коласа "Галерэя Ады", якая атрымала на Міжнародных кінафестывалях дакументальных фільмаў тры прызы. Былы вязень Віцебскага гета, былая настаўніца Германавіцкай школы Шаркоўшчынскага раёна, стваральніца музея Язэпа Драздовіча (цяпер культурна-асветніцкі цэнтр імя Я. Драздовіча), стварыла яшчэ і карцінную галерэю ў в. Германавічы з дапамогай вядомых беларускіх мастакоў. Штогод яны прыязджаюць на пленэр у Германавічы. Аб уражаннях ад стужкі "Галерэя Ады" мой верш "Пленэр".

PS. Дазвольце невялікае дапаўненне да напісанага аб змесце стужкі "Галерэя Ады". На экране тэлевізара – штодзённае жыццё вёскі Германавічы. Наступны кадр змяняе папярэдні. Вось вяскоўцы вядуць на пашу кароў, малаказбошчыца ўвішна пералівае са слоікаў малако ў бідоны, паштальён на роварах развозіць газеты. Ды і сама гераіня стужкі Ада Райчонак вязе ў поле сняданак мужу, які на сваім МТЗ апрацоўвае зямлю, бо ў вёсцы без зямлі і ўласнай гаспадаркі пражыць вельмі цяжка. Нават вельмі сталыя людзі трымаюцца за яе да апошняга, гэта ў працавітага беларускага сялянства ў крыві, як кажуць, "памірай, а жыта сей".

Але Ада Эльеўна Райчонак з кагорты тых людзей, якія не жывуць "хлебам адзіным". Ёсць у яе мары і захапленні. Усё жыццё пражыла яна ў гэтым прыгожым куточку беларускай зямлі, вучыла вясковых дзяцей, палюбіла гэту зямлю і думала: "А ці бачаць гэту прыгажосць мае аднавяскоўцы? Гэту раку, дрэвы, поле? Бо ўвесь час на працы ў калгасе, ва ўласнай гаспадарцы. Касу змяняе плуг і наадварот".

Вось ідзе гэтая энергічная сталая жанчына па вясковай вуліцы, каб падрыхтаваць жытло для мастакоў, якія прыедуць на пленэр, а дапамогі амаль няма, за выключэннем двух-трох жанчын, можа нават яе вучаніц. Вось з мужам на ўласнай фурманцы вязуць ложкі, няхітры скарб, каб уладкаваць гасцей. Затое колькі радасці ў яе вачах пры сустрэчы з мастакамі, колькі цеплыні ў прывітанні. Відаць, што і госці ставяцца да яе з павагай, шчырасцю, даверам да той справы, якую яна робіць.

І вось мастакі распачалі пленэр. Нясмела падыходзяць людзі – іх няшмат: хлопчыкі моўчкі назіраюць за працай мастака, жанчына мімаходзь прыпынілася моўчкі. А вось адна кабета ўзрадавана кажа мужу: "Глядзі, нашы сланечнікі намаляваў!"

А жыццё вёскі прадаўжаецца, збіраюцца на імшу да касцёла вернікі, непрыемную вестку атрымаў Стась, партрэт якога ў старых ночвах малюе мастак: на пашы пала яго карова. Стась сапраўды пакутнік: застаўся з маленькімі дзецьмі адзін, жонка пакінула яго і звезла з хаты нават газавую пліту, а тут яшчэ такая страта. "Паглядзі, сапраўды, як Ісус", - адзначаюць вяскоўцы, гледзячы на працу мастака.

І вось людзі, якіх малююць мастакі, ахвотна ўступаюць у размову: гэта і шукальніца праўды, і чалавек са зламаным жыццёвым лёсам, і муж з жонкай, якія знайшлі прытулак у гэтым куточку беларускай зямлі. Бо хто іх больш будзе слухаць?

Закончаны пленэр, карціны развешаны на алеі старога парку. Падыходзяць людзі, разглядаюць, разыходзяцца. Што яны адчуваюць, аб чым думаюць, мы не ведаем. Галерэя Ады папоўніцца новымі творамі. Яна застаецца ў кадры адна са сваімі карцінамі, задумліва пераглядае іх. Ці можа яна што змяніць у свядомасці, у поглядах людзей, з якімі пражыла побач амаль паўстагоддзя.

Цяжка сказаць, і ўсё ж яна верыць, што яе справа, яе намаганні не прападуць дарма. Можа, ўнукі, дзеці гэтых людзей зразумеюць, што на зямлі ёсць адзіны родны, мілы і любы сэрцу родны кут, у які заўсёды можна вярнуцца, а лепш за ўсё яго не пакідаць ніколі, працаваць, рабіць яго прыгажэйшым і мацнейшым. Гавораць жа ў народзе: " Дзе нарадзіўся, там і згадзіўся". А галерэя Ады няхай саграе іх сэрцы і ўзвышае душы.

А вось і апошні кадр: Ада і яе муж Алег Райчонкі едуць у сваім МТЗ у поле. Пажадаем ім плённай хлебаробскай працы і здзяйснення мараў.



## Пленэр

*Адзе Райчонак*

Пад'язджаюць да хаты машыны,
Гасцей Ада заве на пленэр.
Зноў яна ў сяброўскіх абдымках,
Радасць тут пануе, давер.
На шырокіх дзісенскіх прасторах
Харавства ўладарыць свет.
І адыдзе бяда, знікне гора,
Як мастак намалюе партрэт.
Хто ж пакіне надзённыя справы –
Немагчыма стрымацца спакус.
У старых ночвах – Стася выява
- Паглядзі, сапраўды, як Ісус.
Пазнаюць на карцінах мясціны!
Рэчка, дрэвы, квітнеючы луг.
Над зямлёй людзей Ада ўздыме,
Бо спакон у іх руках каса, плуг.
І святлеюць, смяюцца іх твары,
Кожны сам сябе пазнае.
Мо аб гэтым Драздовіч марыў?
Вось каб ведаў, што справа жыве!
А ўвечары вогнішча водблiск.
"Зорку ясную" ціха спяюць.
Поўня выплыве з-за аблокаў,
А ў думках – зямля Беларусь.
Для нашчадкаў яе галерэя,
Хтось на памяць пакінуў мальберт.
Душу ўзвысіць і сэрца сагрэе,
Прыгажосць уратуе свет.

# Аказваецца, журавіны – унікальны прадукт

**Журавіны — выдатная крыніца вітаміну С. А ён так неабходны нашаму арганізму ў сезон прастуд і інфекцый! Акрамя таго, у склад журавін уваходзіць даволі рэдкі вітамін РР, які спрыяе засваенню аскарбінкі, а таму гэтым ягадам — як сродку павышэння імунітэту — амаль няма роўных.**

Толькі ўлічыце, што вітамін С разбураецца падчас кіпячэння, таму, калі вы гатуеце журавінавы морс, ягады лепш не адварваць. Напой будзе больш карысным, калі з ягад выціснуць сок, зварыць з цукрам скурку і рэшткі мякаці (яны нададуць морсу колер), а калі сіроп астыне, дадаць у яго журавінавы сок.

Пад далікатнай скуркай журавін яшчэ хаваюцца вітаміны групы В (умацоўваюць нервовую сістэму і станоўча ўплываюць на знешні выгляд скуры і валасоў), арганічныя кіслоты (лімонная, бензойная, яблычная і інш.), пекцінавыя рэчывы, а таксама каштоўныя мікраэлементы — такія, як калій, ёд, магній, фосфар, жалеза, марганец.

Журавінавыя морсы і кампоты добра ўжываць пры прастудзе. Па-першае, журавіны аказваюць гарачкапаніжальны эфект, па-другое, цудоўна праганяюць смагу, а па-трэцяе, выдаляюць з арганізма таксіны, якія назапашваюцца падчас хваробы. А журавінавы сок, змешаны з мёдам, не толькі дапамагае адкашлівацца і змагацца з ангінай, але і павышае імунітэт, ратуючы вас ад чарговай інфекцыі.

Журавіны вельмі карысныя і людзям, у якіх ёсць праблемы з сэрцам і сасудамі: яны зніжаюць узровень шкоднага халестэрыну ў крыві і нармалізуюць ціск. Паніжэнне ціску адбываецца дзякуючы мачагоннаму эфекту журавін, прычым, у адрозненне ад многіх іншых мачагонных сродкаў, журавінавы сок не вымывае з арганізма калій, які патрэбны сэрцу.

Да таго ж журавіны могуць з поспехам замяніць павараную соль, якую неабходна абмяжоўваць пры сардэчна-сасудзістых захворваннях і праблемах з лішняй вагой. Замест солі дадавайце ў ежу ягады або сок — і яна не будзе здавацца занадта прэснай.

Акрамя таго, у складзе журавін прысутнічаюць фітанцыды, або, як іх яшчэ называюць, прыродныя антыбіётыкі. Дзякуючы ім гэтыя ягады часта выкарыстоўваюцца для прафілактыкі нястраўнасці, а таксама пры цыстыце.

### Народныя рэцэпты

Пры нястраўнасці заліце 2 шклянкамі гарачай вады пару сталовых лыжак журавін, пракіпяціце на слабым агні на працягу 10 хвілін, астудзіце, працадзіце і піце па паўшклянкі чатыры разы на дзень. * Калі на скуры ёсць гнайнікі і прышчыкі, падыдзе кампрэс з журавінавага соку. З прыгаршчы ягад выцісніце сок, намачыце ў ім бавоўняную касметычную сурвэтку і пакладзіце яе на твар. Паляжыце 10 хвілін, цалкам расслабіўшыся.

Пры паніжаным імунітэце: змяшайце 1 кг журавін, 1 кг парэзаных яблыкаў, 2 шклянкі ачышчаных і здробненых грэцкіх арэхаў і заліце сумесь сіропам, прыгатаваным з 1 шклянкі вады і 2,5 кг цукру. Праварыце сумесь на слабым агні 30 хвілін і перакладзіце ў слоік. Прымайце па 1 ст. лыжцы раніцай, запіваючы цёплай вадой.

Пры гіпертаніі: прапусціце журавіны праз мясарубку, змяшайце з мёдам у роўных прапорцыях, прымайце па 1 ст. лыжцы 3 разы на дзень за 15–20 хвілін да яды.

Для прафілактыкі цыстыту піце свежавыціснуты сок журавін па 2 ст. лыжкі два разы на дзень за паўгадзіны да яды.

### Увага!

Журавінавы сок садзейнічае павышэнню кіслотнасці, таму людзям з павышанай сакрэцыяй страўніка і язвавай хваробай лепш лячыцца іншымі сродкамі.

### Цікава

Захоўваюцца журавіны вельмі добра: у цёмным халаднаватым месцы яны могуць ляжаць, не страчваючы сваіх уласцівасцяў і таварнага выгляду, да трох месяцаў. Ёсць некалькі спосабаў падоўжыць жыццё гэтым ягадам. Напрыклад, раскласці іх у 3-літровыя слоікі і заліць халоднай вадой. У такім выглядзе журавіны могуць захоўвацца да паўгода. Толькі ваду трэба перыядычна мяняць — прыкладна раз на два тыдні. Выліваць яе, дарэчы, не трэба — яе можна піць, дадаючы цукар.

Дзякуючы багаццю арганічных кіслот журавіны могуць выкарыстоўвацца ў ролі прыроднага кансерванту. Журавінавы сок або ягады, дабаўленыя ў хатнія саленні, марынады, квашаную капусту, павялічаць тэрмін захоўвання вашых нарыхтовак і нададуць стравам прыемную кіслінку.

### Морс для працаголіка

Калі вы стаміліся пасля напружанага працоўнага дня або, наадварот, вам трэба выканаць адказную працу, папесціце сябе журавінавым морсам. Усяго пара шклянак такога напою бадзёрыць і вярне добры настрой, зніме стомленасць і паспрыяе вашай кар'еры, паколькі журавінавы морс павышае актыўнасць мозга і павялічвае працаздольнасць.

### Прыгажосць з кіслінкай

З надыходам халадоў скура часта страчвае эластычнасць, лушчыцца і чырванее. У гэтым выпадку дапаможа маска з журавінавага соку. Змяшайце палову жаўтка, адну сталовую лыжку соку і адну чайную лыжку смятаны. Нанясіце на твар на 15 хвілін, змыйце, а затым падмацуйце дзеянне маскі чайным марлевым кампрэсам. Можна рабіць такія маскі 2–3 разы на тыдзень, курс — 10–12 масак.

### Журавіны ў цукры

500 г журавін, 500 г цукровай пудры, яйка (бялок) — 1 шт.

Для дэсерту выбраць буйныя ягады, прамыць і абсушыць на папяровым ручніку. Бялок аддзяліць ад жаўтка. Бялок узбіць, дадаць да яго ягады і ўсё акуратна перамяшаць, каб бялок раўнамерна размеркаваўся па ягадах. Затым перасыпаць ягады на сіта, каб лішні бялок мог сцячы. Цукровую пудру размеркаваць па паверхні дошкі або плоскай талеркі і выкласці частку ягад. Пальцамі перакочваючы журавіны, сачыць, каб кожная ягада пакрылася слоем пудры. Паўтарыць гэту працэдуру з усімі ягадамі.

### Журавінава-яблычнае суфле

100 г журавін, 1 яблык, 100 мл салодкага белага віна, 100 мл сметанковага ёгурту, 2 яйкі, 20 г цукру, 3 пласцінкі жэлаціну.

Яблык ачысціць ад лупіння і насення, нарэзаць скрылікамі і адварыць у белым віне, каб размяк. Затым адкінуць на сіта, даць сцячы вадкасці, а кавалачкі яблыкаў працерці ў пюрэ і астудзіць. У яблычнае пюрэ дадаць палову ёгурту, палову ўзбітых яечных бялкоў і добра перамяшаць. Журавіны варыць у вадзе з цукрам 25–30 хвілін, адкінуць на сіта, ягады працерці ў пюрэ. Затым дадаць разведзены ў вадзе жэлацін, астудзіць, даліць астатні ёгурт і ўзбіты яечны бялок, перамяшаць. Заліць суфле ў формы: на донца — журавінавае, зверху — яблычнае. Астудзіць. Перад падачай на стол донца формы акунуць у цёплую ваду і дастаць суфле.

*«Звязда».*



# Плануецца, што новыя вадзіцельскія пасведчанні ў Беларусі пачнуць выдаваць з 1 лютага 2011 года

**Плануецца, што вадзіцельскія пасведчанні новага ўзору ў Беларусі пачнуць выдаваць з 1 лютага 2011 года. Пра гэта БелаПАН паведамілі ва ўпраўленні Дзяржаўтаінспекцыі МУС.**

Як вядома, тэрміны пачатку кампаніі па выдачы новых вадзіцельскіх пасведчанняў неаднаразова пераносіліся. Называліся сярэдзіна і канец 2010 года, пачатак 2011 года. Паводле слоў суразмоўцы агенцтва, плануецца, што да 1 лютага распачаць гэтую працу будуць гатовыя ўсе падраздзяленні Дзяржаўтаінспекцыі. У Мінску да выдачы новых вадзіцельскіх правоў ужо гатовыя.

Нагадаем, неабходнасць увядзення новых вадзіцельскіх пасведчанняў прадыктавана папраўкамі да Еўрапейскай канвенцыі аб дарожным руху 1968 года, якія набылі моц 29 сакавіка 2011 года. Новае пасведчанне будзе мець выгляд пластыкавай карткі з некалькімі ступенямі абароны, у тым ліку галаграмамі і подпісам уладальніка. Катэгорыі транспартных сродкаў будуць паказаныя піктаграмамі на адваротным баку карткі. Прычым іх стане больш,чым цяпер.

Пасля 29 сакавіка 2011 года грамадзянін Беларусі са старымі правамі выехаць на машыне за межы краіны не зможа. Таму, як чакаецца, першымі, каму давядзецца іх памяняць, стануць вадзіцелі-дальнабойшчыкі.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*




Дзмітрыя Лупача

**Віншуем з днём нараджэння!**

Пускай здоровье будет крепким,
А сердце вечно молодым!
Пусть каждый день твой будет светлым
На радость нам и всем родным!
Спешим поздравить с днем рожденья!
Желаем счастья, настроенья,
Успеха, бодрости, удачи,
Здоровья крепкого в придачу.



*Калектыў "ВГ"*

■ А.П. Салодкі

# Ці могуць бытавыя прыборы быць небяспечнымі?

Нашы дамы сёння літаральна «нашпігаваны» разнастайнай бытавой тэхнікай. А яна, як паказваюць упартыя факты, нярэдка становіцца прычынай НЗ. Прычым колькасць пажараў, звязаных з парушэннямі правіл пажарнай бяспекі пры эксплуатацыі электрапрыбораў, павялічваецца менавіта з наступленнем ацяпляльнага сезону. На што звярнуць увагу?

● Калі вы выкарыстоўваеце абагравальнікі, то не забывайце пра нагрузку на электрасетку, якую яны ствараюць. Выкарыстоўвайце электранагравальныя прыборы толькі завадскога вырабу. Так званыя саматужныя абагравальнікі і кіпяцільнікі нярэдка становіцца прычынай пажараў.

● Не пакідайце ўключаныя электрапрыборы без нагляду (нават у «спячым рэжыме»). Уключаны ў сетку электрапрыбор награецца, што можа прывесці да замыкання і ўзгарання гаручага матэрыялу.

● З электраправодкай таксама трэба быць акуратнымі:нельга падвешваць правады на цвіках, завязваць іх вузламі, заклейваць шпалерамі і паперай ці вешаць на іх адзенне.

● Няспраўныя выключальнікі і разеткі таксама ўтойваюць у сабе патэнцыйную пажарную небяспеку.

### Як не атруціцца ўгарным газам?

Угарны газ нельга ўбачыць ці адчуць, аднак менавіта ён (а не сам агонь) часцей за ўсё становіцца прычынай смерці падчас пажару. Аднак учадзець узімку ў хаце можна і без НЗ. На што ж трэба звярнуць увагу?

Сельскім жыхарам варта быць вельмі акуратнымі пры топцы печак. Угарны газ з'яўляецца тады, калі паліва цалкам не згарэла, а засланку ўжо зачынілі, каб захаваць цяпло. Таму спяшацца з закрыццём засланкі нельга.

Вінаватай у атручванні ўгарным газам можа стаць і звычайная газавая калонка, калі ў ёй засмеціцца дымаадводная труба. Асаблівая крыніца небяспекі -- старыя калонкі, не абсталяваныя датчыкамі цягі і электрамагнітным клапанам. Гэтыя прылады аўтаматычна спыняюць падачу газу ў выпадку ўзнікнення аварыйнай сітуацыі;

На ўсякі выпадак запомніце галоўныя прыкметы атручвання ўгарным газам: адышка, галаўны боль, галавакружэнне, путанне свядомасці, млоснасць, пры больш высокай канцэнтрацыі газу -- страта свядомасці.

Звярніце ўвагу, што большасць з вышэйпералічанага падобна на сімптомы пры грыпе, харчовым атручванні і іншых захворваннях, таму вы можаце і не падумаць, што прычынай нядужання з'яўляецца ўгарны газ.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

27 снежня 2010 г. – 2 студзеня 2011 г.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 27 снежня

ПЕРШЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫ

**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.15** Новости.
**06.05, 07.10, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**06.45** Nota Bene.
**07.05, 08.10** Зона Х.
**07.30, 08.25, 11.55** Деловая жизнь.
**08.30** «В мире моторов».
**09.10** В центре внимания.
**10.35** Культурные люди.
**11.05»Маруся»**
**12.10 «Замерзшая из Майами»** (США).
**14.05** Женское ток-шоу
**15.15, 19.15** Новости региона.
**15.40** «OFF STAGE LIFE»
**16.05** Nota Bene.
**16.35«Спальный район»**
**17.15»Маруся»**
**18.25** «Окно в Европу».
**18.50, 00.55** «Зона Х».
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Арена».
**19.55** «Ответный ход».
**21.00** Панорама.
**21.45**«Земля святой Нино».
**22.10 «Доктор Хаус-5»**
**23.25** Комедия **«Пережить Рождество»** (США).
**01.00** День спорта.
**01.15** Хоккей для всех.




**06.00,09.00**Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10 «Вызов»**.
**12.20** «Детективы».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10**«Контрольнзакупка».
**13.45**«Модный приговор».
**14.50**«Понять. Простить».
**15.25** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Дикий молодняк».
**16.50** «Битва титанов».
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет».«Оливье посоветски или испытаниеНовымгодом».
**18.55** «Пусть говорят»
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** «Голоса».
**22.20 «Ангелы Чарли»**.
**00.05** Наши новости.
**00.20** Новости спорта.
**00.25**«Всегда Ваш,товарищСухов».
**01.25 «Виола Тараканова.В мире преступных страстей»**.
**02.10** «Пусть говорят»
**03.00-03.20** Ночн.новости.




**06.35 «Универ»** (Россия).
**07.00** ЛАДное утро.
**08.00** Телебарометр.
**08.05 «Чисто английские убийства»**
**09.00 «Девочки»** 1-я сер.
**10.00** Рождественская мелодрама **«С праздником ничто не сравнится»**
**11.50** Пра мастацтва.
**12.20** Школа ремонта.
**13.25** Премьера канала. «Хали-гали».
**14.00 «Приключения Петрова и Васечкина, обыкновенные и невероятные»** 1-я серия.
**15.10** Мультсериал **«Дракончик и его друзья»** (Канада).
**15.25** Внеклассный час.
**15.40** Телебарометр.
**16.00 «Налетчики»**
**16.50«Чисто английские убийства»**
**18.00 «Девочки»** 1-я сер.
**19.05** «Хали-гали».
**19.25** «Новогодняя шутка с…»
**20.30** Калыханка.
**20.45** Телебарометр.
**20.50** Белорусское времечко.
**21.55** Футбол. Чемпионат Англии. Премьер-лига. Арсенал-Челси. Прямая трансляция.
**23.55** Овертайм.
**00.25** Футбол. Чемпионат Англии. Премьер-лига. Обзор тура.
**01.20 «Налетчики»**




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя». .
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40**«Богатаяилюбимая».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** «Фантастика под грифом «Секретно»: «Загадки памяти».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Кино»: **«ГДЕ НАХОДИТСЯ НОФЕЛЕТ?»**.
**15.10**КонцертМЗадорнова.
**16.00**«КультУРА!».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Взрослые игры»**.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «В тему».
**20.30 «ПАПА НАПРОКАТ»**.
**22.30** «24 часа».
**22.55**«Столичныйфутбол».
**23.25«ПРОСТОДРУЗЬЯ»**.




**07:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**07:30** Гісторыя пад знакам Пагоні : «Род Радзівілаў»
**07:40** Хто ёсць кім?: Уладзімір Чыквін
**08:00** ПраСвет
**08:25** Эксперт
**08:45** Рэмарка
**09:10** Моўнік
**09:20** Басанож па свеце : «Хатні слон»
**09:45** «Камунізм гісторыя адной ілюзіі»
**10:35 «Час гонару»** (Czas Honoru), серыял: 9 серыя
**11:25«Плецены чалавек»**
**17:00** Аб'ектыў
**17:05 «Мой родны горад»** серыял: 11 сер
**17:30 «Час гонару»** 9 сер
**18:15** «Царква на мяжы»
**18:45** Госць «Белсату»
**19:00** Хто ёсць кім?: Уладзімір Чыквін
**19:20** Калыханка для самых маленькіх
**19:30** Еўропа сёння
**20:00** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Ізгоі», дак. фільм, рэж. Аляксандр Ступнікаў, 2009 г., Беларусь
**21:00** Аб'ектыў (галоўнае выданне)
**21:25** Рэмарка
**21:45** Фільматэка майстроў: **«Плецены чалавек»**
**23:25** Аб'ектыў



## СЕРАДА, 27 снежня

